Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты на 1 год 4 зл. 5с, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 27 жніўня 1932 г. | № 24 (49)

## Характэрны цыркуляр.

Увесь культурны сьвет ужо даўно прызнаў абсалютную неабходнасьць для народнае школы вучыць дзяцей у іх роднай — *матчынай мове.* Гэты чыста пэдагогічны прынцып абсалютна бясспрэчны, і тая дзяржава, каторая ня трымаецца яго, ніколі ня можа выпаўніць свайго цывілізацыйнага заданьня ў адносінах да тых сваіх грамадзян, якія пазбаўлены роднае школы.

Мы ўжо адзначалі — на падставе інфармацыяў польскае ўрадавае прэсы („Кур. Віл.“), што ў Заходняй Беларусі, дзе для беларускіх дзяцей існуе прымус вучыцца ў „повшэхных“ школах папольску, вынікі школьнае працы проста катастрофальныя: між іншым аб іх гаворыць *паўторная няграматнасьць*, сустраканая сярод гадунцоў польскіх школаў у Зах. Бел.. Але ані польскае грамадзянства, ані школьныя ўлады ня робяць з гэтых фактаў, сьцерджаных публічна, належнага дый наагул *адзінага* магчымага ў гэтай справе вываду, якім ёсьць увядзеньне беларускае выкладовае мовы ў дзяржаўных школах для беларусаў. *Палітычнае* заданьне польскага школьніцтва ў Заходняй Беларусі стаўляецца вышэй за ўсе *пэдагогічныя* прынцыпы.

Калі прыпомнім старыя часы панаваньня на нашай зямлі царскае Расеі, дык і там школа праводзіла не культурна-пэдагогічныя, а чыста палітычныя мяркаваньні. Але была галіна, у якой пэдагогічнаму прынцыпу вучэньня дзяцей у роднай мове ўсё-ж была роблена пэўная ўступка: гэта — ў галіне навучаньня рэлігіі. Праўда, у адносінах да беларусаў тасаваўся такі фальшывы прынцып, што нібы то „материнскій язык“ беларусаў праваслаўных ёсьць расейскі, а беларусаў каталікоў — польскі. Але, прыкладам, запраўдныя палякі мелі магчымасьць вучыць дзяцей сваіх рэлігіі у дзяржаўных народных школах — папольску.

Надовячы ў абшарніцкім „Слове“ (№№ 198 і 199) былы вышэйшы ўрадовец, абшарнік з Слонімшчыны, Уладыслаў Есьман зрабіў цікаўную рэвэляцыю. Паводле ягоных слоў, навет у галіне навучаньня рэлігіі ў польскіх дзяржаўных школах тасуецца ў адносінах да беларускіх дзяцей усё той-жа палітычны прынцып недапусканьня роднае мовы. „Вучыцялі народных школ у (Слонімскім) павеце атрымалі ад сваей улады цыркуляр з загадам паразумецца з бацькамі вучняў, ці не хацелі-бы лепш, каб навука рэлігіі адбывалася *ў польскай мове, а не расейскай*, як было дагэтуль“... У выніку гэтага, як сьцьвярджае п. Есьман, „вызначаны ўрадам вучыцель, які мае ўладу накладаць кары за непасыланьне дзяцей у школу, *намаўляе* (беларуса), каб згаджаўся на навуку рэлігіі папольску“...

Як бачым, замест аднае аномаліі, астаўшаеся ад царскіх часоў, польская школьная ўлада хоча стварыць другую аномалію.. Навет з галіны выкладу рэлігіі беларуская мова ў нас рашуча выкідаецца, хаця ў абароне яе правоў — паводле слоў таго-ж п. Есьмана — выступаюць навет... айцы езуіты!

Вось — пасьля ўсяго гэтага, пасьля сьцьвярджэньня факту нарушэньня бясспрэчнага права беларусаў на навуку ў роднай мове — галоўны рэдактар абшарніцкае часопісі пазволіў сабе зьмясьціць у „Слове“ № 201 гэткія радкі:

„Мяне дзівіць становішча некаторых палякоў, якія хочуць аднолькава разглядаць нашу (польскую) палітыку ў адносінах да беларусаў і ў адносінах да гданскіх немцаў. Беларусы ледзь пачалі тварыць сваю культуру, і йдзе ім гэта ня вельмі добра, нямецкая-ж культура існуе некалькі стагодзьдзяў, і „барацьба“ з ёй ёсьць нешта зусім іншае“.

Так, „ня вельмі добра“ ідзе наша культурная творчасьць, бо-ж беларусы ня маюць сваей дзяржавы, як маюць немцы. У Савецкай Беларусі, якая за некалькі гадоў адноснае свабоды падняла беларускую культуру на большую вышыню, чым Літва, Латвія, або Эстонія — сваю, цяпер ідзе рашучае змаганьне маскоўскага нацыяналізму з усімі праявамі самастойнасьці беларускае нацыянальнае культуры, а ў Заходняй Беларусі навет навука рэлігіі даецца дзецям беларускім у чужой для іх мове... Ці-ж дзіва, што ў такіх варунках тварэньне беларускае культуры ня можа йсьці поўным ходам?

Але-ж да таго, каб гэтае тварэньне нашае нацыянальнае культуры запыніць, і заклікаюць усьцяж дзяржаўную ўладу Польшчы паны абшарнікі — праз вусны сваіх „спэцаў“-журналістаў тыпу п.п. Мацкевіча і Студніцкага. І — судзячы паводле цыркуляру школьнае ўлады да вучыцялёў Слонімшчыны — голас іх не астаецца бяз водгуку.

Ці-ж запраўды школьныя ўлады так рашуча ідуць па шляху недапусканьня да навучаньня беларускіх дзяцей у роднай мове навет рэлігіі?!... Цікава было-б пачуць нешта аб становішчы ў гэтай справе вышэйшых кіраўнікоў дзяржаўнага школьніцтва на землях Заходняе Беларусі і даведацца, ці „цыркуляр“ гэны адносіцца толькі да Слонімшчыны, ці да ўсіх беларускіх зямель у Польшчы?

## Работа чорных сілаў

Польская прэса падае жудасную вестку з Гальшанаў. Вестка гэтая паказвае, што, як калісь у царскай Расеі, так і цяпер сярод нашага народу працуюць нейкія цёмныя сілы, каторым недаспадобы мірнае сужыцьце розных нацыянальнасьцяў на Беларускай зямлі.

Нейкія асобы, „абураныя“ тым, што непадалёк ад каталіцкага касьцёлу ў Гальшанах здаўна стаіць жыдоўскі дом нейкага Капэлёвіча, рабілі крокі, каб сабраць грошы і выкупіць гэты дом ад яго ўласьніка. Аднак, да куплі не дайшло, бо не маглі згаварыцца аб цане. Тады тыя асобы, — як відаць, „хрысьціяне“ толькі па імені, але не па духу, — пачалі шукаць іншага спосабу пазбыцца нямілага суседа. І спосаб знайшоўся.

15 жніўня, ў дзень сьвята Маткі Божае, адбывалася ўрачыстае набажэнства ў Гальшанскім касьцёле і працэсія на вуліцах мястэчка. Народу зьехалася многа. Неўспадзеўкі нехта пусьціў сярод народу ілжывую вестку, што нібы-то жыды з дому Капэлёвіча кідалі ў працэсію камяньне. Знайшліся правадыры, каторыя падбухторылі таўпу ісьці разграміць дом Капэлёвіча. І вось грамада людзей кінулася на гэны дом, уварвалася ў сярэдзіну і пачала яго руйнаваць. Жыхары дому ў страху ўцяклі. Пагромшчыкі пачалі біць і ламаць вокны і дзьверы ды зрываць дах.

Пакліканая паліцыя з трудом разагнала пагромшчыкаў і некалькіх заарыштавала.

Ганьба тым, хто так ганебна ашукаў даверчывых сялян і падняў іх на нягоднае дзела. Ганьба тым большая, што сваю агідную работу яны робяць прыкрываючыся Крыжом і імем Хрыста, сьветлыя запаветы каторага самі-ж сваімі паступкамі топчуць.

## Новая вайна Кітаю з Японіяй.

Усе паасобныя павадыры Кітаю, неяк згаварыўшыся, маюць выслаць у Манджурыю вялікую і добра азброеную армію. З свайго боку, Японія, маючы ў Манджурыі даволі нязначныя, а да таго-ж параскіданыя на вялікім прасторы ваенныя сілы, сьпешна кідае на граніцы Кітаю і Манджурыі новыя войскі. Кітайскія генаралы ідуць на Мукдэн, а японскае войска сьпешным маршам ідзе на Пэкін, каб захапіць усе шляхі, што злучаюць Манджурыю з Кітаем.

Такім чынам, Японія, змушаная да гэтага стратэгічнымі мяркаваньнямі, перанесла ўжо ваенную акцыю сваіх войск на тэрыторыю Кітаю. А гэта, зразумела-ж, страшэнна папсуе і без таго ўжо нячувана цяжкае міжнароднае становішча Японіі, ня кажучы аб новых грашовых выдатках ужо вельмі расхістанай фінансова Японіі.

Справа ў тым, што ведамая камісія Лігі Нацыяў пад старшынствам англійца Лятона, якая больш паўгоду назад была выслана ў Шанхай і Манджурыю, выдала ўрэшце сваю справаздачу аб японскай акцыі ў Манджурыі. Справаздача гэтая запраўды-ж палітычна і маральна забойчая для Японіі. Камісія ня толькі сьцьвярдзіла поўную і выключную віну Японіі ў Манджурскім канфлікце яе з Кітаем, але да таго-ж бясспрэчна даказала сьведамае згары й задоўга абмысьленае правакаваньне Японіяй усяго Манджурскага канфлікту, каб мець зачэпку дзеля

